ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 31 5 жніўня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

(2329)

## 27 ЛІПЕНЯ БЕЛАРУСЬ АДЗНАЧЫЛА ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ



## НЯПРОСТЫ ШЛЯХ ДА РЭАЛЬНАЙ САМАСТОЙНАСЦІ

Дзень незалежнасці, які Беларусь адзначыла 27 ліпеня, свята зусім маладое, як маладая наша незалежная, суверэнная дзяржава. Аднак "незалежнасць, пра якую ўсе мы марылі і марым сёння, — сказаў на ўрачыстым пасяджэнні з нагоды свята Старшыня Савета Міністраў РБ Вячаслаў Кебіч, — ёсць справа найвялікшай цяжкасці. Яна патрабуе яднання ўсіх народаў, якія спрадвеку жывуць на нашай Бацькаўшчыне".

Вітаючы суайчыннікаў і асэнсоўваючы зробленае, В. Кебіч сказаў, што наша рэспубліка стала цяпер паўнапраўным суб'ектам міжнародных адносін, даказала сваю здольнасць да ўзаемакарыснага супрацоўніцтва з многімі краінамі далёкага і блізкага замежжа. Беларусь прызналі зв[illegible]00 дзяржаў свету, і з большасцю з іх наладжаны дыпламатычныя адносіны.

На гэтым жа ўрачыстым пасяджэнні, якое прайшло ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, віцэпрэзідэнт АН Беларусі Радзім Гарэцкі выступіў з дакладам "Суверэнітэт Беларусі: шляхі станаўлення".

Прыгожа, у нацыянальных традыцыях аформленая сцэна (бела-чырвона-белыя сцягі, герб "Пагоня"), добрая беларуская мова прамоўцаў, канцэрт майстроў мастацтваў рэспублікі, у якім гучала беларуская музыка, беларускае слова, пакінулі незвычайнае ўражанне.

**НА ЗДЫМКУ: ускладанне кветак на плошчы Перамогі ў Мінску.**

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## БЕЛАРУСКІ ЛЕС. ЯГО РОЛЯ Ў ЭКАНАМІЧНЫМ ЖЫЦЦІ РЭСПУБЛІКІ

# І АДЗЕНЕ, І НАКОРМІЦЬ

**Добра вядома, што краіна, якая стала на шлях самастойнага развіцця, не можа пражыць без сваіх карысных выкапняў. Прыклад таму і наша Беларусь. Пасля распаду СССР мы востра адчулі дэфіцыт металаў, нафты, вугалю... Праўда, пайшлі паведамленні ад геолагаў аб знойдзеных радовішчах жалеза, вугалю і іншых багаццях.**

**Паведамленні абнадзейваючыя, аднак гэтыя радовішчы трэба яшчэ распрацаваць, на што спатрэбіцца шмат часу. Да таго ж запасы руды, напрыклад, не Бог ведае, якія. Сапраўдным багаццем, якім можа пахваліцца сёння наша Беларусь, застаецца лес.**

**Менавіта аб яго ролі ў эканамічным жыцці рэспублікі і расказвае карэспандэнту "Голасу Радзімы" намеснік міністра лясной гаспадаркі Уладзімір РАМАНОЎСКІ.**

**— Уладзімір Паўлавіч! Беларусь заўжды называлі краінай лясоў. Якая ж плошча іх?**

— Беларускі лес займае больш за восем мільёнаў гектараў. Гэта прыкладна каля трыццаці чатырох працэнтаў ад усёй плошчы рэспублікі. Запас жа драўніны складае прыблізна восемсот мільёнаў кубаметраў.

Багацце вялікае для такой параўнальна невялікай краіны, як Беларусь. Гаспадарамі яго з"яўляюцца некалькі структур: Міністэрства лясной гаспадаркі, Міністэрства абароны, калгасы і саўгасы, навучальныя ўстановы.

**— Чарнобыльская катастрофа, пажары мінулага года прынеслі вялікія страты лясной гаспадарцы рэспублікі. У якую капеечку нам усё гэта вылілася?**

— Маштабы страт нават цяжка ўявіць. Давайце зноў звернемся да лічбаў. Плошча забруджаных радыенуклідамі лясоў складае 1,3 мільёна гектараў. Гэта ж пятая частка ўсяго фонду рэспублікі. Скарацілася нарыхтоўка драўніны, недаатрыманы многія тоны мяса дзікіх жывёл, грыбоў, ягад... Страты для сельскай гаспадаркі — нельга сеяць, нельга касіць (а корму сельскія гаспадаркі ў лясных угоддзях нарыхтоўвалі нямала!) — склалі 4 872,4 мільёна рублёў. Плюс яшчэ 2 853 мільёны рублёў дадатковых затрат на вядзенне лясной гаспадаркі, звязанае з катастрофай.

Сапраўднае стыхійнае бедства адбылося летась — каля сямі з паловаю тысяч пажараў. Агнём поўнасцю і часткова знішчаны 25 тысяч гектараў лесу. Стыхія не пашкадавала дзве вёскі, што знаходзіліся паблізу зялёных масіваў. Мяркую, што падлічаныя першапачатковыя страты на суму 222 мільёны рублёў моцна заніжаныя.

І ад Чарнобыля, і ад тых пажараў нам аднавіцца будзе вельмі цяжка яшчэ на працягу многіх і многіх гадоў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ВІЗІТ СТАНІСЛА[illegible] ШУШКЕВІЧА Ў ЗША БЫЎ ПАСПЯХОВЫМ

**У час афіцыйнага візіту ў Злучаныя Штаты Амерыкі Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча адбылася сустрэча з прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам, у час якой апошні адзначыў, што Беларусь стала першай з новых незалежных дзяржаў былога Савецкага Саюза, якая поўнасцю выканала свае абавязацельствы па Лісабонскаму пратаколу, ратыфікавала дагавор СНВ-1 і далучылася да дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі. Біл Клінтан таксама падкрэсліў зацікаўленасць яго краіны ў расшырэнні эканамічных сувязей з Беларуссю. У заяве Белага дома гаворыцца, што гутарка з С. Шушкевічам стала для прэзідэнта Клінтана яго першай афіцыйнай сустрэчай у ЗША з кіраўніком адной з новых незалежных дзяржаў былога СССР.**

**Прайшоўшая сустрэча, адзначаецца ў прынятай сумеснай Дэкларацыі аб адносінах паміж ЗША і Беларуссю, "прадэманстравала важнасць, якую Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь надаюць расшырэнню і паглыбленню сваіх адносін".**

**С. Шушкевіч нанёс візіт у Пентагон і сустрэўся з міністрам абароны ЗША Лесам Эспінам. ЗША прадастаўляць Беларусі 59 мільёнаў долараў на садзейнічанне ў дэмантажы былых савецкіх ядзерных узбраенняў. Агульная сума садзейнічання ЗША Беларусі ў розных галінах складзе цяпер 75 мільёнаў долараў.**

**НА ЗДЫМКУ: Вашынгтон. Белы дом. Сустрэча Станіслава ШУШКЕВІЧА з Білам КЛІНТАНАМ.**



ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

# НЯПРОСТЫ ШЛЯХ ДА РЭАЛЬНАЙ САМАСТОЙНАСЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Падумалася нават, што можа так і пойдзе наша нацыянальнае адраджэнне, можа захопіць душы беларусаў прага і цікавасць да свайго спрадвечнага, адчуюць і пачнуць замацоўваць сваю адметнасць.

27 ліпеня раніцай урачыстасці з нагоды трэцяй гадавіны абвяшчэння Беларуссю сваёй незалежнасці пачаліся з ускладання вянкоў і кветак да шматлікіх помнікаў і абеліскаў, брацкіх магіл і воінскіх пахаванняў абаронцаў і вызваліцеляў рэспублікі, якія загінулі ў баях за яе свабоду.

Вянкі ад Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў, Міністэрства абароны Беларусі, ветэранскай і іншых грамадскіх і дзяржаўных арганізацый, праваслаўнай царквы былі ўскладзены да помніка-абеліска воінам, партызанам і падпольшчыкам на плошчы Перамогі ў Мінску.

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, міністры, военачальнікі прынялі таксама ўдзел у рытуалах воінскіх ушанаванняў і ўскладанні гірляндаў памяці на Кургане Славы, карзін з жывымі кветкамі ў Курапатах пад Мінскам, дзе пахаваны ахвяры таталітарнага рэжыму. Кветкі ад парламента, урада, савецкіх і грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў былі таксама ўскладзены на мемарыяльным комплексе "Хатынь", да абеліска "Мінск — горад-герой".

27 ліпеня з віншаваннем да беларускага народа з нагоды Дня незалежнасці звярнуўся па нацыянальнаму тэлебачанню і радыё Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. Ён сказаў, што большая частка нашай гісторыі — гэта гісторыя саюзаў. Кожны з перыядаў, пачынаючы з сівой даўніны і да нашых дзён, па-свойму трагічны, трагічны і супярэчлівы, кожны мае чорныя і светлыя імгненні.

"Мы жылі ў адной сям'і і з Расіяй, і з Літвой, і з Польшчай, і з Кіеўскай Руссю. Як і ў любой сям'і, былі і цудоўныя старонкі, былі і канфлікты. Вельмі важна, каб наша гісторыя ва ўсёй яе паўнаце не перашкаджала будаваць новыя адносіны з дэмакратычнымі суседзямі".

Тры гады назад у гісторыі Беларусі пачаўся новы перыяд — перыяд будаўніцтва нейтральнай дэмакратычнай дзяржавы. Мы сталі саўдзельнікамі вялікага гістарычнага працэсу на значнай частцы зямнога шара: звыш дваццаці краін будуюць новае дэмакратычнае грамадства на глебе грамадска-палітычнага ладу, які зайшоў у тупік.

Не хаваючы цяжкасцей і складанасцей нашага жыцця, С. Шушкевіч сказаў: "Няпросты шлях да рэальнай самастойнасці, да дабрабыту, да сапраўды дастойнага жыцця, але мы ідзём гэтым шляхам. Ідзём, пераадольваючы не толькі палітычныя і эканамічныя складанасці, аднак, на жаль, і спякоту, і суш лета 1992 года, і паводку гэтага года. Будзем мужнымі ва ўсіх гэтых выпрабаваннях і прыйдзем да Беларусі!"

У гэты ж дзень святочныя мерапрыемствы адбыліся ў гарадах і вёсках Беларусі.

**НА ЗДЫМКУ:** ушанаванне ахвяр таталітарнага рэжыму ў Курапатах.



*ДОМ-ПАНСІЯНАТ*

## "РАЙ" ДЛЯ САСТАРЭЛЫХ

**У Віцебску зданы ў эксплуатацыю першы і адзіны пакуль у Рэспубліцы Беларусь Дом-пансіянат для пажылых людзей.**

**Гэты унікальны комплекс будынкаў на праспекце Фрунзе стварыўся па нямецкаму праекту на працягу пяці гадоў і запатрабаваў 400 мільёнаў рублёў. Затое для спакойнага і ціхага жыцця ў ім пажылых людзей гарадскімі ўладамі прадугледжана ўсё да дробязей. Так, апрача жылых карпусоў, выканаых у двух узроўнях, унутранага дворыка-сквера з яблыневым садам, тут для ветэранаў пабудаваны магазін-кулінарыя, пральня, кіназала, бібліятэка, здраўпункт, аптэка, зімні сад і нават гаражы для асабістага транспарту.**

**Ужо ў жніўні ва ўтульных адна- і двухпакаёвых кватэрах пасяляцца больш двухсот адзінокіх людзей — састарэлых, інвалідаў і ўдзельнікаў вайны, воінаў-афганцаў.**

*ПРАПАЎ СКАРБ*

## БЕЗВЫНІКОВЫЯ ПОШУКІ

**Дзевятнаццаць рымскіх сярэбраных манет са знойдзенага ў Бярозаўскім раёне гэтай вясной скарбу так і не выяўлены.**

**Як і належыць, знаходка з 408 манет была здадзена ў раённы аддзел унутраных спраў, пра што складзены адпаведны акт. Аднак вучоным Акадэміі навук было перададзена толькі 389 з іх. Шукаць прапажу да Бярозаўскіх сышчыкаў безвынікова выязджаў доктар гістарычных навук прафесар Інстытута гісторыі АН РБ Л. Побаль. На яго думку, прапаўшыя манеты маюць вялікую гістарычную і мастацкую каштоўнасць. Прафесар не пакідае надзеі знайсці дынарыі.**

*ПАСТУПІЎ ЗАКАЗ*

## ДЗЕ І "ТАТРА" НЕ ПРОЙДЗЕ...

**Буйнейшы заказ зрабіла акцыянерная кампанія "Сургутнафтагаз" Магілёўскаму аўтамабільнаму заводу — вырабіць у гэтым годзе сто самазвалаў-ўсюдыходаў. Раней у гэтым таёжным краі працавалі ў асноўным чэхаславацкія машыны "Татра". Але неабходнай "загартоўкі" на цяжкапраходных сібірскіх трасах ім яўна не хапала.**

**Новыя ж магілёўскія 23-тонныя самазвалы з двума вядучымі мастамі, арыгінальным профілем колаў і іншым запасам трываласці на расійскім бездарожжы і ў кар'ерах адчуваюць сябе больш упэўнена. Там, дзе вязнуць "Татры", КраЗы, МАЗы і іншыя машыны, магілёўскія волаты праходзяць беспераашкодна, што па вартасці ацанілі сібіракі.**

*СТЫХІЯ*

## ТАКОЙ ПАВОДКІ НЕ БЫЛО 110 ГАДОЎ

**На Беларусі такой моцнай паводкі не было сто дзесяць гадоў. У Жыткавіцкім раёне, напрыклад, затоплена больш 60 працэнтаў прысядзібных участкаў, у вадзе аказалася каля тысячы гектараў калгаснай бульбы, 6 358 — збожжавых, 11 800 — сенажаці. Пацярпелі практычна ўсе вобласці, але асабліва — Гомельшчына, Брэстчына.**

**Страты, на жаль, могуць быць яшчэ большыя, бо вада з Гарыні, Прыпяці і іншых рэчак працягвае прыбываць і затапляе новыя плошчы.**

**Для ліквідацыі вынікаў стыхіі ў Савеце Міністраў рэспублікі створана камісія па надзвычайнай сітуацыі.**

**На прайшоўшай прэс-канферэнцыі членамі камісіі паведамлена, што для Гомельскай і Брэсцкай абласцей выдзелена дадаткова 3 020 тон бензіну і 3 620 тон дызельнага паліва. Выдзяляюцца будаўнічыя матэрыялы для пацярпеўшых рэгіёнаў, для людзей — самыя неабходныя тавары, грошы.**

**У ліквідацыі паводкі прымаюць удзел часці грамадзянскай абароны, ваеннаслужачыя, працоўныя калектывы вялікіх і малых населеных пунктаў, устаноў.**

*НАВУЧАННЕ*

## НА СРОДКІ ЭМІГРАНТАЎ

**Сенат Вільнюскага педагагічнага універсітэта паставіў умову для далейшага існавання беларускага аддзялення — сродкі шукайце самі. Рэальным гарантам фінансавання выступіла беларуская эміграцыя. Гэта дазволіла своечасова аб'явіць набор і правесці ўступныя экзамены. На беларускае аддзяленне, якое працуе ўжо трэці год і якое сёлета сенат універсітэта меркаваў закрыць, на дванаццаць месцаў было пададзена 19 заяў.**

*МІТЫНГ-РЭКВІЕМ*

## У ПАМЯЦЬ АБ СПАЛЕНЫХ

**Агульны боль і ўдзячная памяць сабралі сотні людзей у вёсцы Доры Валожынскага раёна. Яны прыйшлі сюды з нагоды трагедыі, якая адбылася 50 гадоў назад. Тады фашысцкія карнікі сагналі жыхароў гэтай і навакольных вёсак у мясцовую царкву і зажыва спалілі іх.**

**На месцы былой трагедыі ўзведзены мемарыяльны комплекс, ля якога нядаўна і адбыўся жалобны мітынг-рэквіем. На яго прыехалі з розных мясцін Беларусі многія вядомыя людзі.**

**Малебен на месцы, дзе раней стаяла царква, на мітынгу-рэквіеме адслужыў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі, член Свяшчэннага сінода Філарэт.**

*БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА*

## "ВЯРТАННЕ"

**Летась у Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі праходзіла выстава твораў беларускай мастачкі Галіны Русак са Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе яна жыве з 1949 года. Менавіта ў гэтай краіне яна пачала маляваць, знайшла сябе як творца. Яе імя і творчыя здабыткі добра вядомыя беларускай дыяспары. Амерыканская крытыка лічыць мастацтва Галіны Русак цікавай з'явай, дзе спалучаны амерыканскі досвед і беларускія вытокі.**

**Нарэшце выйшаў з друку пад назвай "Вяртанне" тыражом 1 000 экземпляраў каталог твораў мастачкі. Выдавец — рэспубліканскі часопіс "Мастацтва". Мова — беларуская і англійская.**

**Тэкставую частку складаюць публікацыі самой Галіны Русак, дырэктара Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі Юрася Карачуна, мастацтвазнаўцы Валянціна Сельвесюка, кароткая біяграфія мастачкі і пералік яе асноўных твораў.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

МІНСКАЯ вада, якая раней лічылася ці не найсмачнейшай у былым Саюзе, усё больш забруджваецца, асабліва нітратамі. Норма іх утрымання ў 1 літры — 3 міліграмы. Жыхары сталіцы п'юць ваду, у якой да 500—600 міліграмаў нітратаў.

З 11 108 хлопцаў, што былі прызваны ў беларускую армію мінулай восенню, 984 маюць судзімасць, 1 025 траплялі па той ці іншай прычыне ў міліцыю, 2 148 выраслі ў няпоўных сем'ях. У 1985 годзе ад службы ў арміі ўхіліліся 525 чалавек, у 1992-м было 1 179 дэзерціраў.

ДЗЯКУЮЧЫ ліквідацыі шэрагу ваенных аб'ектаў на Гродзеншчыне, мясцовыя гаспадаркі атрымалі сотні гектараў новых земляў. Яны будуць разараны і засеяны. Частка зямлі аддзе пад садовыя таварыствы.

У МІНСКУ адкрылася Беларускае аддзяленне Германскага інстытута імя Гётэ. Дзейнасць гэтай установы, маючай філіялы ў дзесятках краін свету, звязана з распаўсюджаннем у свеце ведаў пра культурныя здабыткі нямецкага народа, яго мовы.

САВЕТ Міністраў Беларусі прыняў пастанову аб адкрыцці ў Гаазе Генеральнага консульства РБ. Генеральным консулам назначаны Уладзімір Астапенка, які раней працаваў намеснікам міністра замежных спраў рэспублікі.

У МАГІЛЁВЕ адбыўся першы выпуск групы егераў, якая фарміравалася яшчэ ў часы існавання Саюза.

САМЫЯ распаўсюджаныя ягады чарніцы не сталі чысцейшымі і ў гэтым годзе ў лясах Магілёўшчыны. У абласной санэпідстанцыі зрабілі каля трохсот проб лясных дароў. 40 працэнтаў правераных ягад аказаліся "брудныя".

ЗАРЭГІСТРАВАНЫ "Ваўкавыскі тэлеканал". Заснавальнік яго — малое прадпрыемства "Ваўкавыскі тэлецэнтр" — мае намер рыхтаваць штодзённыя праграмы аб падзеях грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця горада і раёна, а з дапамогай спадарожнікавай сувязі — і замежжа.

# І АДЗЕНЕ, І НАКОРМІЦЬ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**— Мы вельмі часта спісваем усё на аварыі, стыхійныя бедствы. Ці не лічыце вы, Уладзімір Паўлавіч, што шмат лесу мы выкарыстоўваем не па-гаспадарску? Скажам, неапраўдана многа аддалі пад ваенныя аб"екты, палігоны. Магчыма, штосьці тут мяняецца да лепшага з часу распаду СССР?**

— Мяняецца. І, дзякуй Богу, да лепшага. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь рашыў перадаць нам з кампетэнцыі Міністэрства абароны лясныя землі плошчай 65 тысяч гектараў. І гэты працэс будзе працягвацца.

**— Цяпер рэспубліку захліснуў дачны бум. Садовыя ўчасткі вельмі часта даюцца побач з лесам або пералескамі. Праз год-другі ад тых пералескаў застаюцца адны хмызнякі, ад будаўнічага лесу — пянькі. Магчыма я і памыляюся, але, мне здаецца, ніхто з такіх дачнікаў-браканьераў (а іх іншым словам нельга і назваць) не нясе адказнасці за самавольныя высечкі, а яны ж наносяць таксама вялікі ўрон...**

— Гэта турбуе і нас, Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь. Толькі ў 1992 годзе для дзяржаўных і грамадскіх патрэб намі перададзена 3,2 тысячы гектараў у пастаяннае карыстанне.

Абласнымі выканкомамі былі адначасова прыняты рашэнні, згодна з якімі кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, калектывы якіх маюць садаводчыя таварыствы, павінны забяспечыць належны санітарны стан лясных масіваў у радыусе 500 метраў. Але гэтыя рашэнні практычна выконваюцца дрэнна. Бо як тады разумець той факт, што за мінулы год у лясах міністэрства было самавольна высечана 72 тысячы кубічных метраў драўніны. А гэта — вялікая страта. У многіх выпадках парушальнікі не выяўляюцца і не нясуць адказнасці.

**— Уладзімір Паўлавіч, лесу ў нас многа. Значыць, ён з"яўляецца галоўнай крыніцай экспарту. Які ж даход мы атрымліваем ад гэтага?**

— Напэўна, вас здзівіць адно ўдакладненне: лес мы... імпартуем. Па плошчы, займаемай зялёнымі масівамі, з намі мала хто параўнаецца не толькі з былых рэспублік Саюза, але і з іншых "лясных" краін далёкага замежжа. Тут трэба ўнесці яснасць. Пакуль існаваў СССР, з Масквы прыходзілі дырэктывы і нарматывы, колькі кубаметраў драўніны мы павінны нарыхтоўваць штогод. Парушэнне тых лічбаў, невыкананне плана выклікала б жорсткія меры.

Вось мы і данарыхтоўваліся да таго, што высеклі львіную долю будаўнічага лесу. І на сёння засталіся з маладняком, якому да таварнай прадукцыі яшчэ не адзін дзесятак гадоў расці ды расці. Хаця, падкрэслю, колькасць плошчаў зялёных масіваў у нас павялічваецца. Так, толькі за пасляваенныя гады гэты рост склаў 12,5 працэнта.

Імпартуем лес у асноўным з Расіі, за што прыходзіцца разлічвацца аўтамабілямі, трактарамі, станкамі.

Што тычыцца экспарту, то лічу: тых 2,1 працэнта лесу ад агульнай колькасці, якая нарыхтоўваецца за год, яўна недастаткова для такой лясной дзяржавы, як Беларусь. Атрымліваем ад экспарту ўсяго восем мільёнаў долараў, якія потым ідуць на пакупку тэхнікі для лясной гаспадаркі. А пятая частка ад усёй сумы валюты паступае Міністэрству аховы здароўя для набыцця лекаў.

**— Як ідзе аднаўленне ляснога запасу? У якіх рэгіёнах і аб"ёмах адраджаюцца ці павялічваюцца тэрыторыі пад зялёнымі масівамі?**

— Аднаўленне лесу ў рэспубліцы ідзе ў некалькіх накірунках. Аднаўляюцца зялёныя масівы на месцах ранейшых высечак для вырошчвання будаўнічай драўніны. Напрыклад, за мінулы год такая работа праведзена на 22,2 тысячы гектараў. Аблясяем пустэчы, няўдобіцы (на пясчаных глебах, ярах). Дапамагаем сельскай гаспадарцы. З гэтай мэтай ствараем ахоўныя палосы для затрымання снегу, спынення працэсаў эрозіі глебы.

У апошнія гады, пасля чарнобыльскай аварыі, з"явіліся дадатковыя клопаты па пасадцы лесу на забруджаных радыенуклідамі землях, што дапамагае знізіць узровень распаўсюджання радыяцыі. Ужо пасаджана 8,3 тысячы гектараў лесу на такіх землях.

**— Аднаўленне лесу ідзе толькі натуральным шляхам ці праводзіцца нейкая селекцыйная работа?**

— У асноўным натуральным. Але мы супрацоўнічаем і з нашым Батанічным садам. Скажам, гэта ўстанова можа нам дапамагчы ў развядзенні лістоўніцы, магчыма — кедра, чырвонага дуба, кустоўнікаў, што спрыяла б павелічэнню корму для жывёл, садзейнічала б павелічэнню іх колькасці. Але стаўка робіцца на нашы абарыгенныя, традыцыйныя пароды: сасну, елку, бярозу...

**— Вельмі часта, Уладзімір Паўлавіч, мы разглядаем лес як крыніцу атрымання будматэрыялаў. Але ж ёсць яшчэ заказнікі, запаведнікі...**

— Іх роля вялікая. Для недасведчаных людзей заказнікі і запаведнікі — месцы, дзе захоўваецца флора і фауна. Тут трэба глядзець шырэй. Беларусь добра развітая прамысловая краіна. На яе тэрыторыі столькі фабрык, заводаў, што калі б не было лесу, асабліва масіваў, адведзеных пад заказнікі і запаведнікі, то недалёка было б і да экалагічнай катастрофы (нават без уліку Чарнобыля). Яны — нашы лёгкія, ачышчаюць атмасферу.

Усяго ж у рэспубліцы ёсць 3 запаведнікі — Бярэзінскі біясферны, Прыпяцкі гідралагічны і Палескі, які замаруджвае распаўсюджанне радыяцыі, адзін нацыянальны парк — Белавежская пушча. Агульная плошча іх складае 367 тысяч гектараў. Заказнікаў у нас 73. Плошча іх 555 тысяч гектараў.

**— Якія захады робяцца для таго, каб захаваць заказнікі, запаведнікі?**

— Гэта праблема стала міжнароднай. Запаведнікі, заказнікі ды і сам лес нярэдка "хварэюць" з-за забруджанасці паветра: сохне лес у Германіі, абмялелі азёры, рэкі. Ёсць такія з"явы ў нашых бліжэйшых суседзяў літоўцаў, палякаў...

Гэтыя трывожныя з"явы непакояць і вучоных, і лесаводаў усіх краін свету. Для выпрацоўкі мерапрыемстваў па ахове лясоў збіраюцца кангрэсы, семінары, нарады. Мне, напрыклад, пашчасціла выступіць на іх двойчы: у Парыжы і Хельсінкі. І не выпадкова. Комплекс мерапрыемстваў па ахове лесу, які выпрацаваны ў Беларусі, годны пераймання. Галоўнае тут не дапусціць забруджвання навакольнага асяроддзя нашымі прамысловымі прадпрыемствамі, сельскагаспадарчымі комплексамі.

**— Ці лічыце вы, што ў нашых лясах сёння мала дзічыны?**

— У лясах рэспублікі, падлічана, больш за 25 тысяч ласёў, 6 тысяч аленяў, 35 тысяч казуль, ёсць іншыя віды жывёл, прамысловых птушак. За апошнія 15—20 гадоў колькасць дзічыны вырасла. Паўстала праблема з кормам для яе. Тут, я ўжо казаў, мы і падбіраем спецыяльна ўчасткі пад дрэвы, якія даюць жалуды, лісты, садзім кустарнікі, каб жывёлам было чым паласавацца.

Пасля 1986 года мы перасталі экспартаваць дзічыну. У гэтым вінаваты Чарнобыль. Аварыя на атамнай станцыі адбіла ахвоту купляць у нас мяса дзікіх жывёл. На пятай частцы нашых лясоў мы наогул не вядзём палявання. Нямала клопатаў і страт прыносяць браканьеры. І тым не менш лічу, што пры гаспадарскім падыходзе за кошт палявання мы маглі б значна павялічыць харчовыя запасы.

**— Затое і без уліку чарнобыльскай зоны шмат, напэўна, збіраецца ягад, грыбоў, лекавых раслін... Беларускі лес — сапраўдная кладоўка.**

— Тут я з вамі цалкам згодны. Усяго гэтага ў нас нарыхтоўваецца нямала. Скажам, летась нарыхтавана 1 50[illegible] ягад, 235 — грыбоў, 71 — лекав[illegible] раслін. Асабліва многа было сабрана бярозавага соку — 18 тысяч тон, 41 тысяча тон мёду. Але гэтыя лічбы далёка не мяжа.

**— Паляванне, збор ягад, грыбоў, лекавых раслін... За ўсё гэта мож[illegible]ць добрую капейку і выгаду. [illegible]кім вы, Уладзімір Паўлавіч, бачыце ў перспектыве беларускі лес? Чым ён можа дапамагчы ў станаўленні нашай маладой дзяржавы?**

— Скажу без перабольшання: пры гаспадарскім падыходзе да лесу ён нас і накорміць, і абуе, і адзене.

Тут нядрэнна было б звярнуцца да вопыту замежных дзяржаў. У першую чаргу да вопыту, напрыклад, Фінляндыі. Гэта краіна, як і Беларусь, не вызначаецца вялікай колькасцю карысных выкапняў, але людзі ў Фінляндыі жывуць добра. Дабрабыт дасягнуты дзякуючы лесу, высокай механізацыі яго апрацоўкі, пасадкі. У справу ідзе ўсё, як кажуць, да апошняй галінкі.

Лесу ў Фінляндыі хапае і для сябе, і на экспарт. Дзякуючы вялікай колькасці зялёных масіваў, тут стала вырабляцца лесаапрацоўчая тэхніка, якая таксама ідзе на экспарт і прыносіць даходы.

У нас жа зусім іншая карціна. Так, лес у нас расце, ён малады. Але ж і сёння яго можна перапрацоўваць, а няма чым. Праўда, калі пачакаем пару дзесяткаў гадоў, то будзем мець вялікае багацце. Голымі рукамі драўніну не апрацуеш, не давядзеш да таварнага выгляду ды і шмат не пасадзіш саджанцаў. На сённяшні дзень мы не маем у дастатковай колькасці сваёй айчыннай тэхнікі для гэтага. Нават ступень механізацыі ў лясной гаспадарцы падае. Напрыклад, пры пасадцы лесу.

Машыны нам даводзіцца купляць у асноўным за мяжой, траціць на гэта вялікія грошы, валюту. Пакуль толькі "Гомсельмаш" спрабуе нешта зрабіць сваё, айчыннае.

Праблем існуе многа. Толькі не хацелася б нашу гутарку заканчваць на песімістычнай ноце. Пройдзе гэты нялёгкі і складаны час. Наш лес — вялікае багацце. І ім павінны карыстацца ўсе. Толькі па-гаспадарску.

**Гутарыў Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

## ГРАФ ПРУШЫНСКІ:

# "МАЯ ПРАГРАМА — ДАБРАБЫТ І ДЭМАКРАТЫЯ"

Нядаўна рэдакцыю газеты "Голас Радзімы" наведаў граф Аляксандр Ксавер"евіч Прушынскі. Пра сябе ён расказаў, што нарадзіўся ў Беларусі, у Мастоўскім раёне, 20 год пражыў у Канадзе, а зараз прыехаў дамоў, каб тут балаціравацца на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Пан Прушынскі апрануты вельмі проста — у лёгкую спартыўную куртку і кашулю без гальштука, ён маладжавы, падцягнуты, бадзёры і жыццярадасны, што нават дзіўна для чалавека, які павінен мець уяўленне аб сённяшнім стане беларускай эканомікі. На маё пытанне, як выглядае яго перадвыбарная праграма, граф Прушынскі адказаў коратка і канкрэтна: "Дабрабыт і дэмакратыя. Як няма дабрабыту — дык не будзе і дэмакратыі". Граф лічыць, што неабходна тэрмінова правесці прыватызацыю, якая і будзе першым крокам да росквіту і дастатку. І спадзяецца, што другі крок на гэтым шляху Беларусі дапамогуць зрабіць заможныя замежныя суайчыннікі. У сваю чаргу, рэспубліка павінна паклапаціцца, каб усе, хто лічыць сябе беларусам, колькі і дзе ім ні давялося б жыць, атрымалі двайное грамадзянства і ў любы момант мелі магчымасць прыехаць на Радзіму не гасцямі, а паўнапраўнымі грамадзянамі.

— Як вы ацэньваеце сённяшняе становішча на Беларусі?

— За тры гады тут нічога не зроблена. Тое, што зараз адбываецца, калі гаварыць вобразна, нагадвае сітуацыю ў цырку, калі сланы ланцугом ідуць па кругу, трымаючы адзін аднаго хобатам за хвост. Маршрут знаёмы, дзеянні прывычныя, і раптам слон, які ідзе першым, некуды знікае, ланцужок распадаецца, і сланы ў разгубленасці бадзяюцца па арэне, не ведаючы, што ім рабіць. Разумныя людзі вучацца на чужых памылках, мы ж працягваем вучыцца на ўласных.

— Як вы ацэньваеце свае шанцы на перамогу?

— Ведаеце, як Бог дасць. Лепш было б, каб па маёй праграме выступаў нехта іншы, а я сядзеў бы ў вёсцы і пісаў кніжкі. Мая жонка хоча бачыць мужа дома.

— Як вы ставіцеся да праблем з мовай у рэспубліцы?

— Па-першае, ніякага гвалту, бо гэта ўжо будзе не дэмакратыя. Па-другое, трэба зрабіць моду на мову, вось тады на ёй і загавораць.

— Што будзеце рабіць, калі вас не абяруць прэзідэнтам?

— Напішу кнігу пра тое, як я змагаўся за пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Калі кніга атрымаецца добрай, прадам яе на Захадзе, і мне за яе добра заплацяць.

— А калі б сталі прэзідэнтам, якім быў бы ваш першы крок?

— Падзякаваў бы Богу і людзям за выбранне.

А можа, і сапраўды нічога ў нас не атрымалася таму, што Богу падзякаваць забыліся? Не думаю, каб гэтая версія нашых няўдач была горшай за іншыя.

На маю асабістую думку, шанцаў у графа Прушынскага стаць прэзідэнтам Беларусі мала. Калі, напрыклад, ён вырашыць выступіць перад народам, яго могуць проста не зразумець. Сумесь рускай, беларускай, англійскай і польскай, на якой размаўляе кандыдат у прэзідэнты, патрабуе перакладу хаця б на адну з вышэйпералічаных моў. Але ж недзе ў глыбіні душы я ўсё ж такі дапускаю магчымасць таго, што нашай рэспублікай будзе кіраваць тытулаваны прэзідэнт. Лозунгі ў яго ніштаватыя — хто ж ад дэмакратыі, а тым больш, ад дабрабыту адмовіцца. Ды і стаміўся народ ад дамарошчаных палітыкаў, якія ўжо нават абяцаць забываюцца, а толькі ў поўнай цішыні і без каментарыяў цэны ўздымаюць. Так што, хто яго ведае, жыццё непрадказальнае...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ПРАДСТАЎНІЦТВА ААН У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

# ПАЗБАЎЛЕНА "КОМПЛЕКСАЎ" НАВІЧКА

**ІНТЭРВ'Ю НАМЕСНІКА ПРАДСТАЎНІКА АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ Валерыя ТКАЧУКА ГАЗЕЦЕ "ГОЛАС РАДЗІМЫ".**

**— Валерый Валянцінавіч, ужо шмат гадоў Беларусь з'яўляецца членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Чаму Прадстаўніцтва гэтай арганізацыі з'явілася ў Мінску толькі зараз!**

— Пачнем з таго, што Беларусь фактычна з'яўляецца адной з краін-заснавальніц Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, і ўсе гады яе існавання — а сёлета мы будзем адзначаць 49-ю гадавіну ААН — актыўна ўдзельнічала ў рабоце яе камітэтаў і органаў. Урадавыя дэлегацыі рэспублікі працавалі на сесіях Генеральных Асамблей, мелі права самастойнага голасу пры вырашэнні важнейшых міжнародных пытанняў.

Сапраўды, ААН не мела свайго асобнага Прадстаўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь, гэтыя функцыі з 1948 года выконваў Інфармацыйны цэнтр Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Маскве, дзейнасць якога ахоплівала ўсю тэрыторыю былога СССР, у тым ліку Беларусь і Украіну. Зразумела, гэтага было недастаткова, хаця Інфармцэнтрам праводзіліся сустрэчы і іншыя мерапрыемствы, існавалі пастаянныя кантакты.

Пасля распаду Савецкага Саюза і абвяшчэння Беларусі незалежнай дзяржавай былыя формы работы ўжо не маглі задаволіць ні беларускі бок, ні Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. Тым больш, што з прыходам у ААН новага генеральнага сакратара, вядомага егіпецкага дыпламата Бутраса Бутраса-Галі, у яе сценах таксама пачаліся працэсы, накіраваныя на рэарганізацыю дзейнасці і ўсёй Арганізацыі, і яе Сакратарыята, з тым каб павысіць іх эфектыўнасць і аддачу пры максімальнай эканоміі сродкаў.

Адным з момантаў, які вызначыў далейшыя працэсы, што адбываліся ў свеце, стаў распад Савецкага Саюза і ўтварэнне цэлага шэрагу самастойных незалежных дзяржаў, якія сталі паўнапраўнымі членамі ААН, і іншых міжнародных арганізацый яе сістэмы. Ідэя стварэння часовых аддзяленняў ААН у гэтых новых рэспубліках была прадыктавана, з аднаго боку, жаданнем аказаць гэтым дзяржавам у цяжкі для іх пераходны перыяд тэхнічную і фінансавую дапамогу, а з другога боку, скаардынаваць дзейнасць міжнародных інстытутаў у адносінах да гэтых новых утварэнняў і найбольш эфектыўна і сканцэнтравана выкарыстаць іх сродкі і магчымасці. Гэта новая канцэпцыя міжнародных прадстаўніцтваў ААН была ўпершыню ўвасоблена ў сталіцы Беларусі — Мінску, дзе ў верасні 1992 года адкрылася Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь.

Адкрыццё яго, як сказаў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, стала адным з пацвярджэнняў незалежнасці і самастойнасці Беларусі на міжнароднай арэне.

**— Ці не маглі б вы канкрэтызаваць мэты, з якімі стваралася Прадстаўніцтва ААН у Беларусі!**

— Як я ўжо адзначаў, стварэнне нашага Прадстаўніцтва мела мэты, якія былі адлюстраваны ў Пагадненні паміж урадам Рэспублікі Беларусь і Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый. Гэта, у першую чаргу, супрацоўніцтва з урадам Беларусі ў рэалізацыі праграм дапамогі, накіраваных на эканамічнае развіццё і сацыяльны прагрэс шляхам правядзення даследаванняў і аналізу эканамічнага і сацыяльнага становішча рэспублікі, тэхнічнага садзейнічання ў падрыхтоўцы спецыялістаў, распаўсюджванне інфармацыі, каардынацыя работы ў Беларусі міжнародных арганізацый сістэмы ААН.

**— Як вы лічыце, ці будзе Прадстаўніцтва ААН у Беларусі дзеючай структурай! Ці не стане яно толькі "пачэсным прадстаўніком" гэтай арганізацыі!**

— Мне здаецца, што перадгісторыя стварэння Прадстаўніцтва ААН у Беларусі і пералічэнне яго мэтаў і задач, а таксама час практычных і канкрэтных дзеянняў, у які мы жывём, выключае якое-небудзь "ганаровае адценне" нашай дзейнасці ў рэспубліцы. Мы робім усё магчымае, каб стаць сапраўднымі партнёрамі і памочнікамі розных дзяржаўных і незалежных структур.

**— Раскажыце, калі ласка, пра бліжэйшыя акцыі і планы Прадстаўніцтва ААН у Беларусі.**

— Прымаючы ўдзел у рабоце сесіі Савета кіраўнікоў праграмы развіцця ААН (ПРААН), кіраўнік дэлегацыі Рэспублікі Беларусь, намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі С.Лінг у сваім выступленні даў вельмі высокую ацэнку нашай рабоце. У прыватнасці, ён адзначыў, што ўрад рэспублікі надае вялікае значэнне дзейнасці ПРААН, яе каардынуючай і звязуючай ролі ў аказанні тэхнічнай і кансультатыўнай дапамогі Беларусі ў перыяд пераходу да рыначнай эканомікі. У прыватнасці, праведзена падрыхтоўчая работа па праграмах "Эканамічныя і сацыяльныя пытанні ў перыяд пераходнага працэсу", "Гандлёвая інфармацыя і развіццё экспартнага рынку", падрыхтавана пагадненне паміж Беларуссю і Праграмай добраахвотнікаў ААН. Было таксама падкрэслена, што Прадстаўніцтва стала састаўной часткай дзяржаўных структур у іх дзейнасці па пераходу да рынку.

Для нас падобная ацэнка з'яўляецца вельмі каштоўнай, паколькі адлюстроўвае сутнасць нашага знаходжання ў Беларусі.

На сёння наш рабочы графік запоўнены да канца. Працягваецца практычная работа па выніках чатырохбаковай сустрэчы па праблемах аварыі на Чарнобыльскай АЭС, у якой разам з прадстаўнікамі Расіі і Украіны прыняў удзел намеснік генеральнага сакратара ААН, каардынатар ААН па пытаннях Чарнобыля Й.Эліасон. Ужо абмяркоўваліся практычныя пытанні з супрацоўнікамі Дзяржкамчарнобыля, Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Толькі ў чэрвені мы прынялі ўдзел у рабочай сустрэчы па пытаннях развіцця сістэмы транспарціроўкі газу ў Беларусь і Расію, Міжнароднай рабочай сустрэчы па праблемах барацьбы з незаконным абаротам наркотыкаў, рабоце і знаходжанні дэлегацыі ЮНІСЕФ/ВОЗ па разгляду пытанняў паставак медыкаментаў і медыцынскага абсталявання, якія фінансуюцца Канадай.

Цяпер мы непасрэдна займаемся такой важнай для Беларусі праблемай, як бежанцы. У бліжэйшы час да нас павінны прыбыць прадстаўнікі Упраўлення вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў, якія правядуць тут значную работу па вырашэнню гэтага пытання. Мы таксама чакаем эксперта па аказанню дапамогі ў стварэнні заканадаўчых дакументаў па гэтай праблеме.

Адным з галоўных напрамкаў работы Прадстаўніцтва з'яўляецца каардынацыя дапамогі, аказваемай рознымі міжнароднымі донарамі Беларусі. Гэта вялікая і важная работа, якая будзе працягвацца і ў якую ўцягнуты прадстаўнікі пасольстваў, міжнародных арганізацый, акрэдытаваных у рэспубліцы.

Прадстаўніцтва актыўна працуе ў ...фармацыйным напрамку. У нас усталяваліся ...брыя дзелавыя сувязі з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, супрацоўнікамі радыё і тэлебачання. Апошнім часам з'яўляецца ўсё больш матэрыялаў аб прадстаўніках міжнародных арганізацый, якія прыбываюць у рэспубліку. Мы пачалі выданне ўласнага "Бюл...теня ООН". Ён выпускаецца на дзвюх мовах і ...рыстаецца попытам. Гэта выданне мы ажыццявілі ў супрацоўніцтве з незалежным выдавецка-паліграфічным аб'яднаннем "Эрыдан".

**— Як вы лічыце, у чым будзе рэальная аддача для Беларусі ў выніку стварэння Прадстаўніцтва!**

— Мы стараемся падтрымліваць цеснае супрацоўніцтва з рознымі грамадскімі арганізацыямі рэспублікі, незалежнымі аб'яднаннямі, фондамі, асацыяцыямі. У падтрымцы іх мы бачым развіццё будучых самастойных структур, што садзейнічаюць больш дынамічнаму пераходу да рыначных адносін.

Рэальная аддача для рэспублікі ад нашай дзейнасці, мяркуем, адчуваецца ўжо сёння. Можа гэтая дапамога не такая ўжо вялікая, як хацелася б, але і ўзрост Прадстаўніцтва невялікі. Мы ж працуем у рэспубліцы менш года.

Пры нашым непасрэдным удзеле і фінансавай падтрымцы прайшлі шэраг семінараў і міжнародных сустрэч, былі накіраваны спецыялісты для ўдзелу ў курсах па павышэнню кваліфікацыі і г.д.

Уся прыведзеная вышэй інфармацыя дае адказ на пытанне аб практычнай "карыснасці" Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь.

**— Як вы лічыце, ці адчула ўжо сябе маладая Рэспубліка Беларусь часткай сусветнага супольніцтва, ці ўнутраныя і эканамічныя праблемы не даюць пакуль магчымасці ўсвядоміць сябе яе паўнапраўным членам!**

— Мне здаецца, што Рэспубліка Беларусь нават у складзе былога Савецкага Саюза мела магчымасць адчуваць сябе паўнапраўным членам сусветнага супольніцтва. Дастаткова сказаць, што яна з'яўляецца адным са стваральнікаў такой аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі як ААН, пра што гаварылася ў самым пачатку.

Што ж тычыцца сённяшняга яе становішча, то Рэспубліка Беларусь, на мой погляд, пазбаўлена якіх-небудзь "комплексаў" навічка ў міжнародных адносінах. Наадварот, яе палітыка актыўная і дынамічная. Адкрываюцца новыя пасольствы, прадстаўнікі міжнародных арганізацый сталі частымі гасцямі ў краіне, беларускія дыпламаты прымаюць удзел у двухбаковым і шматбаковым перагаворным працэсе, у рабоце самых розных канферэнцый і нарад. У вас ёсць выдатныя спецыялісты, якія працуюць на самым высокім міжнародным прафесійным узроўні.

Шо ж тычыцца ўнутраных і эканамічных праблем, то заслуга беларускага боку і заключаецца ў тым, каб паспрабаваць іх вырашыць з дапамогай міжнароднага супольніцтва.

**Інтэрв'ю ўзяла В. АНАТОЛЬЕВА.**



**У цяжкі час адраджаецца духоўнасць нашага народа, аднаўляюцца некалі разбураныя і ўзводзяцца новыя храмы.**

**Характэрны ў гэтым плане старажытны Полацк. Тут адкрыўся жаночы манастыр, рэстаўрыраваны Свята-Крыжа-Узвіжанскі сабор, ідуць службы.**

**НА ЗДЫМКУ: ажыўлена ў дні царкоўных святаў у Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

## *НОВАЕ ВЫДАННЕ КАТОЛІКАЎ*

# КАБ БЫЛА ХРЫСЦІЯНСКАЯ ВЕРА

"Вельмі важнае значэньне мае правільнае разуменьне хр... іянскай веры. Неаднойчы я... ала фальсіфікавана, паняцьце яе скажалася. Гэта часам адштурхоўвала людзей ад веры хрысьціянскай, было прычынай нават негатыўных адносін да веры. Таму трэба дбаць аб тым, к... ра хрысьціянская і сёньня бы... такой, якой яна была амаль дзьве тысячы год таму назад" — гэтыя радкі ўзяты з уступнага слова "Рэалізм хрысьціянскай веры" арцыбіскупа мітрапаліта Мінска-Магілёўскага Казіміра Съвёнтэка. Ім адкрываецца новы часопіс "Вера і жыцьцё", першы нумар якога 10-тысячным тыражом аддрукаваны ў Слоніме. Заснавальнікам з"яўляецца мінскі касцёл святога Сымона і святой Алены.

Сапраўды, шмат дзесяцігоддзяў на Беларусі не было свайго перыядычнага выдання для католікаў. Таму новы часопіс "Вера і жыцьцё" дапаможа знайсці сапраўдны шлях да Бога, да каталіцкага касцёла.

Першы нумар новага выдання знаёміць чытачоў з "Літаніяй да Найсьвяцейшага Сэрца Пана Езуса". Яна надрукавана на беларускай і польскай мовах.

У 1917 годзе ў партугальскім мястэчку Фаціма Найсьвяцейшая Маці Божая аб"явілася траім дзецям і праз іх заклікала свет да надзеі. Яна прадказала трагічныя падзеі XX стагоддзя, паказала на адзінае магчымае выйсце і абяцала: "У рэшце рэшт перамога застанецца за Маім Непавінным Сэрцам!" У першым нумары часопіса пачынаюць друкавацца ўрыўкі з кнігі Антоніо А.Барэлі "Фацімская вестка: трагедыя ці надзея".

Спявачка і кампазітар Галіна Смоляк разам з піяністкай і арганісткай Людмілай Удавічэнка былі ўдзельніцамі пілігрымкі ў Чэнстахове. Творчы дуэт выконваў не толькі рэлігійную музыку ў касцёлах розных гарадоў Польшчы, але наладжваў класічныя канцэрты па тэлебачанні і радыё. Галіна і Людміла — веруючыя хрысціянкі — сваёй лепшай канцэртнай праграмай лічаць "Музыку міласэрнасці", якая складаецца з сучасных і старадаўніх арый і песень. Сваімі ўражаннямі ад шматлікіх польскіх сустрэч і дзеліцца Галіна Смоляк з чытачамі новага часопіса.

"Вера і жыцьцё" распачынае друкаваць надзвычай цікавую працу ксяндза Уладзіслава Завальнюка "Сказ пра Будслаўскую Святыню". Яна складаецца з трох раздзелаў: 1. Гісторыя касцёла і кляштару айцоў бернардынаў у Будславе. 2. Пачатак і гісторыя культу абраза Найсвяцейшай Марыі Панны ў Будславе. 3. Рэнесанс культу Святыні ў Будславе ў дзевяностых гадах нашага стагоддзя.

У часопісе змешчаны таксама малітва да Маці Божай Будслаўскай і каляровыя ілюстрацыі касцёла і абразоў. А пра першую пілігрымку да Маці Божай Будслаўскай (1992 г.) расказвае пісьменніца Хрысціна Лялько.

Прафесар Ірэна Павовіч (г.Эльблёнг, Польшча) знаёміць чытачоў з жыццёвым і творчым шляхам паэта Францішка Карпінскага, які быў папулярным у Асветніцкую эпоху.

Нарадзіўся ён на Украіне. У 1780 годзе Ф.Карпінскі пераехаў у Варшаву, дзе нядоўгі час працаваў бібліятэкарам. Аднойчы наведаўшы Гародню і Вільню, паэт палюбіў Беларусь і больш як трыццаць гадоў арандаваў на Гродзеншчыне і Пружаншчыне фальваркі. У Свіслацкім раёне паэт набыў фальварак Хораўшчына, дзе вучыў грамаце сялянскіх дзяцей, займаўся творчасцю і асветніцкай дзейнасцю.

Францішак Карпінскі — адзін з зачынальнікаў польскага сентыменталізму. Ён захапляўся беларускай народнай творчасцю і выкарыстоўваў матывы фальклору ў сваёй творчасці. Ф.Карпінскі — аўтар ідылій, лірычных вершаў і абразкоў, якія сабраны ў сямі тамах пад назваю "Забаўкі вершам і прозай".

Памёр Ф.Карпінскі ў верасні 1825 года, пахаваны ў вёсцы Лыскава Пружанскага раёна.

У часопісе змешчаны на беларускай мове і два вершы нашага земляка.

Аглядаючы першы нумар новага часопіса "Вера і жыцьцё", хочацца адзначыць, што ўсе матэрыялы ў ім друкуюцца на беларускай мове. Некаторыя з іх паралельна надрукаваны на польскай і рускай мовах.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

ВОДГАЛАС ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

# З'ЯДНАНЫЯ АДНОЙ КРЫВЁЮ

**ГУТАРКА КАРЭСПАНДЭНТА "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" СА СТАРШЫНЁЙ РАДЫ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" Ганнай СУРМАЧ.**

**— Ганна Іванаўна, Першы з'езд беларусаў свету, на які затрачана столькі душэўных і фізічных сіл, намаганняў, нарэшце адбыўся. Вы ўзначальвалі рабочую групу па падрыхтоўцы гэтай гістарычнай падзеі. Што вы адчуваеце сёння — стомленасць, задавальненне!**

— Не задавальненне, а яшчэ большае пачуццё адказнасці. Уздыхнуць з палёгкай не магу, бо авансы нам выдадзены сур'ёзныя. Як апраўдаць давер, знайсці шляхі, што паядналі б беларусаў? У замежных і тутэйшых беларусаў у жылах цячэ аднолькавая кроў, а ўмовы жыцця розныя. І гэта наклала адбітак на фарміраванне менталітэту, як цяпер прынята гаварыць, кожнай з гэтых частак народа. Нам, тутэйшым, напрыклад, вельмі цяжка адысці ад старых савецкіх штампаў. Мы перад з'ездам падрыхтавалі анкету, якую прапаноўвалі дэлегатам. І атрымалі заўвагу, што пытацца ў чалавека пра веравызнанне, адукацыю некарэктна. А мы зрабілі анкету, як было прынята ў нас раней...

**— Ці радуюць вас вынікі з'езда!**

— Усё, што было намечана, уся праграма з'езда выканана. Абмеркаваны пытанні дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі. І ў гэтым нібы аб'ядналіся інтарэсы ўсіх беларусаў. Лічу важным дасягненнем з'езда, што на ім практычна арганізацыйна аформілася беларуская сусветная супольнасць. Беларуская эміграцыя доўгія гады знаходзілася ў выключна неспрыяльным становішчы: ёй адмаўлялі ва ўсякіх правах, яе не заўважалі, рабілі выгляд, што яна не існуе.

А на самай справе беларуская эміграцыя фарміравалася недзе на працягу апошніх 200 гадоў і папаўнялася ў асноўным за кошт прымусовай эміграцыі. Беларусы пакідалі Радзіму пасля паўстання Касцюшкі, паўстанняў 1831 года і Каліноўскага, рэвалюцыі 1917 года, у час акупацыі Заходняй Беларусі Польшчай, у першую і другую сусветныя войны. І ва ўсе часы Беларусь як метраполія не праяўляла цікавасці да сваіх сыноў і дачок, раскіданых па свеце. Настаў час выправіць гэту памылку, даць магчымасць кожнаму беларусу адчуць сваю повязь з Бацькаўшчынай.

**— Як вы думаеце, Ганна Іванаўна, ці могуць замежныя беларусы аказаць нам нейкую канкрэтную дапамогу ў нашым сённяшнім складаным становішчы!**

— Могуць дапамагчы многім. Найперш яны з'яўляюцца прыкладам для нас, як нават удалечыні ад Беларусі можна захаваць сваю нацыянальную адметнасць, сваю мову. Яны пражылі жыццё ў цывілізаваных дзяржавах, што ўзбагаціла іх вопытам, як шанаваць сваю нацыю.

Замежныя суайчыннікі спрыяюць усталяванню адносін паміж Беларуссю і тымі краінамі, дзе яны жывуць. Напярэдадні візіту Станіслава Шушкевіча ў Злучаныя Штаты Янка Запруднік і Мельяновіч вылецелі ў Амерыку. Сваімі дзеяннямі яны паказваюць, што ў гэтай краіне жывуць беларусы, якія зрабілі свой уклад у працвітанне краіны. Яшчэ ў час паездкі прэзідэнта Буша ў Японію наша суайчынніца Вера Рамук паслала яму па факсу тэлеграму, дзе пісала: не забывайце пра інтарэсы беларусаў. У час выбарчай кампаніі для будучага прэзідэнта Клінтана кожны голас меў значэнне. Не лішнімі для яго былі і галасы амерыканскіх беларусаў.

Многа карысных парад і практычнай дапамогі аказваюць нам замежныя беларусы і ў нашым маладым бізнесе.

**— Ганна Іванаўна, якія адносіны з афіцыйнымі структурамі, з міністэрствамі мела "Бацькаўшчына" ў час падрыхтоўкі з'езда!**

— Гэта была наша першая спроба наладзіць цывілізаваныя адносіны з дзяржаўнымі структурамі. Былі, канешне, і вострыя моманты. Дзяржава мела намер усё ўзяць у свае рукі, але, паколькі ініцыятыва правядзення Першага з'езда беларусаў свету належала "Бацькаўшчыне", мы хацелі яго бачыць такім, якім задумалі і лічылі патрэбны[illegible]ва-весці. А ў рэшце рэшт[illegible]а-цоўніцтва атрымалася, і кожны з бакоў рабіў сваю частку работы. Гэта была першая спроба па-новаму будаваць узаемаадносіны дзяржаўных і грамадскіх структур. І[illegible]а-цоўніцтва, мы лічым, ат[illegible]ка-лася, бо былі выкарыстаны новыя ўмовы існавання, новыя магчымасці, якія прынеслі нам новыя часы.

**— Колькі год існуе "Бацькаўшчына" і ці зменіцца штосьці ў яе рабоце пасля з'езда!**

— "Бацькаўшчыне" ўсяго два з паловай гады. Для такой арганізацыі гэта вельмі малы тэрмін. Можна лічыць, што адбылося толькі станаўленне беларускай ідэі. Мы нават не стварылі ўласнай структуры. Пасля з'езда беларусаў блізкага замежжа і з'езда беларусаў свету набылі сякі-такі вопыт. Хочам распачаць стварэнне беларускіх суполак у розных краінах і рэгіёнах, каб з іх дапамогай падтрымліваць больш цесныя сувязі з суайчыннікамі.

Да з'езда "Бацькаўшчына" мела раду і ўправу. На з'ездзе абрана вялікая рада, у яе структуры малая рада і ўправа. Управа — выканаўчы орган, працуе пастаянна. Вялікая рада, куды ўвайшлі і прадстаўнікі беларускай дыяспары з блізкага і далёкага замежжа, збіраецца раз на год. Малая рада будзе збірацца 2 разы на год. Вялікая рада вызначае кардынальныя напрамкі дзейнасці нашага згуртавання. Не апошняе слова належыць тут замежным беларусам. І гэта супрацоўніцтва пачалося ўжо на з'ездзе, калі ў рэдакцыйную камісію былі ўключаны беларусы з самых розных краін. Вынік адчуўся адразу. Мы меркавалі прыняць 4 дакументы, а было прынята 9. Работа наперадзе нялёгкая, але патрэбная.

**— Поспехаў, Ганна Іванаўна, вам і ўсяму згуртаванню "Бацькаўшчына".**

**Гутарыла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# ДЭКЛАРАЦЫЯ

## АБ ПРЫНЦЫПАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ДЗЯРЖАЎНАГА БУДАЎНІЦТВА

Першы з"езд беларусаў свету адбываецца ў год святкавання 75-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзеячы БНР распачалі працэс практычнага адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Цяпер стварыліся рэальныя ўмовы для яго паспяховага завяршэння. 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет прыняў, а 25 жніўня 1991 года надаў сілу канстытуцыйнага закона "Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі".

Гэтыя акты стварылі юрыдычны падмурак для адбудовы новай беларускай дзяржавы на прынцыпах незалежнасці, дэмакратыі, павагі да правоў асобы і права беларускага народа на нацыянальнае адраджэнне.

Рэалізацыі гэтай спрадвечнай мары беларусаў у цяперашніх умовах спрыяюць як унутраныя, так і міжнародныя абставіны. Таталітарная сацыяльна-палітычная сістэма ў Беларусі аб"ектыўна вычарпала свае магчымасці і не мае гістарычнай перспектывы. На абсягах былой савецкай імперыі распачаліся працэсы суверэнізацыі, нацыянальнага і эканамічнага адраджэння многіх народаў, якія павінны набыць незваротны характар. Толькі пры ўмове дакладнага разумення асаблівасцяў гістарычнай сітуацыі ўсімі палітычнымі сіламі грамадства з"явяцца падставы для нацыянальнага аб"яднання дзеля сумеснай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны, яе палітычнага, гістарычнага і культурнага адраджэння.

Мы, удзельнікі Першага з"езда беларусаў свету, бачым будучыню вольнай, дэмакратычнай Беларусі як унітарнай, прававой, бяз"ядзернай дзяржавы, якая праводзіць палітыку міру і ўзаемакарысных добрасуседскіх адносін з усімі краінамі свету, якая мае развітую эканоміку, заснаваную на розных формах уласнасці, гарантуе сваім грамадзянам агульнапрызнаныя правы чалавека і клапоціцца пра стварэнне спрыяльных умоў для развіцця культуры беларускага народа, якая прызнае найвышэйшаю мэтаю дасягненне агульнага дабра і сацыяльнай справядлівасці ў грамадстве.

Мы лічым, што распачаць гэтую агромністую працу можа і павінен новы парламент, абраны на падставе дэмакратычнага закону, які створыць умовы для аб"ектыўнага волевыяўлення народа. Улічваючы небяспечны стан эканомікі і відавочную няздольнасць сённяшняй улады ажыццявіць карэнныя і хуткія палітычныя і эканамічныя рэформы, якія б разняволілі творчую актыўнасць народа, мы заклікаем народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прыспешыць новыя выбары. Цяперашні склад Вярхоўнага Савета прыняў шэраг прынцыпова важных рашэнняў і ўжо па гэтай прычыне застанецца ў гісторыі Беларусі. Але дзеля дабра нашага народа і захавання ўласнай годнасці ён мусіць зрабіць апошні адказны крок — забяспечыць канстытуцыйны і мірны шлях да пабудовы сапраўды незалежнай і заможнай Беларускай дзяржавы. Такі шлях ёсць — гэта правядзенне рэферэндуму, за які выказаліся каля 440 тысяч грамадзян Беларусі. Грамадская згода і супрацоўніцтва — гэта тыя каштоўнасці, якія павінны быць захаваны.

Найважнейшы прынцып адбудовы беларускай дзяржаўнасці — правядзенне палітыкі нейтралітэту. Імкненне да гэтага зафіксавана ў Дэкларацыі аб незалежнасці. Таму няма падстаў для далучэння да якіх-небудзь ваенных саюзаў. Права на нейтралітэт Беларусь выпакутавала і акупіла незлічонымі ахвярамі ў многіх войнах.

Свабода — гэта найважнейшая каштоўнасць. Толькі свабода, падмацаваная сваёй дзяржаўнасцю, стварае ўмовы для самарэалізацыі ўсіх патэнцыяльных магчымасцей народа. Мы жывём у час, калі гэта адвечная мара беларусаў можа быць здзейснена. Будзем жа годнымі ўскладзенай на нас лёсам высокай місіі!

Жыве Беларусь!

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "АБ ПАДТРЫМЦЫ ДЗЕЙНАСЦІ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Першы з'езд беларусаў свету, які з'яўляецца адначасна і з'ездам ЗБС "Бацькаўшчына", заслухаўшы справаздачу Рады Згуртавання і прымаючы пад увагу, што "Бацькаўшчына" была асноўным арганізатарам з'езда, пастанаўляе:

— ухваліць намаганні ЗБС "Бацькаўшчына" па арганізацыйнаму і духоўнаму яднанню беларусаў свету, па наладжванню сувязей з грамадска-культурнымі суполкамі беларускага замежжа і аказанню ім усебаковай дапамогі;

— лічыць неабходным працягваць дзейнасць ЗБС у абраным накірунку, пашыраць і ўзбагачаць яе новымі формамі;

— дзеля арганізацыйнай падтрымкі дзейнасці ЗБС лічыць мэтазгодным утварэнне суполак "Бацькаўшчыны" ў беларускіх асяродках у замежжы;

— праводзіць чарговыя з'езды беларусаў свету перыядычнасцю раз у чатыры гады;

— даручыць Управе Рады ЗБС "Бацькаўшчына" апублікаваць матэрыялы Першага з'езда беларусаў свету і Сходу беларусаў блізкага замежжа асобным выданнем.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "АБ ПАДТРЫМЦЫ БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ РАДЫЁ "СВАБОДА"

Амаль 40 гадоў гучыць беларускі голас на хвалях радыё "Свабода". Ён прыходзіў да слухача на Беларусі, нягледзячы на глушэнне і іншыя перашкоды, якія тварыліся таталітарнаю сістэмаю.

Сёння Беларусь цвёрда стала на шлях незалежнасці, аднак поўнай дэмакратыі яшчэ няма. Таму свабодная інфармацыйная крыніца патрэбна нашаму народу.

Мы, прадстаўнікі беларускага грамадства, выказваем сваю падтрымку інфармацыйнай дзейнасці беларускай службы радыё "Свабода" і лічым неабходным прасіць прадоўжыць яе ў далейшым дзеля пабудовы дэмакратычнай беларускай дзяржавы.

# ЗВАРОТ

## УДЗЕЛЬНІКАЎ ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ "АБ УСТАНАЎЛЕННІ МЕМАРЫЯЛЬНАЙ ДОШКІ НА БУДЫНКУ, ДЗЕ БЫЛА АБВЕШЧАНА БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА"

Дэлегаты і госці з'езда выказваюць занепакоенасць, што ўлады Рэспублікі Беларусь і горада Мінска дасюль не далі дазвол афіцыйна на ўстанаўленне мемарыяльнай дошкі на будынку ў г.Мінску, дзе была абвешчана БНР і які добра захаваўся.

Выказваем пажаданне і шчырае спадзяванне, што гэтая справа — відавочная дзеля карэннага дзяржаўнага інтарэса Беларусі, гістарычнае памяці, нацыянальнае годнасці беларускага народа — будзе неадкладна і станоўча вырашана яшчэ да закрыцця з'езда.

Прынята аднагалосна, 8.07.93 г., г.Мінск.

**Частка дакументаў, прынятых Першым з'ездам беларусаў свету, была апублікавана ў № 30 "Голасу Радзімы".**

НАВІНЫ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

# АДБЫЎСЯ "РЫМ-IV"

Навукоўцы сцвярджаюць, што Еўропа XXI стагоддзя стане Еўропай рэгіёнаў... Але што такое рэгіён? Нешта накшталт нашага Палесся, Падняпроўя ці Гродзеншчыны? Як суадносіцца рэгіён з дзяржавай, нацыяй? І ў якой ступені можа ён прэтэндаваць на правы самастойнасці, аўтаномнасці? А калі можа — дык якой: дзяржаўнай, адміністрацыйнай, культурнай?

І яшчэ шэраг праблем-пытанняў. Паколькі рэгіёны звычайна размяшчаюцца на пагранічны дзяржаў, на памежжы народаў, дык што сабой уяўляюць рэгіянальныя культуры? Як узаемадзейнічаюць тут розныя этнічныя элементы? Утвараюць яны хаатычны кангламерат ці выстройваюцца ў заканамерную сістэму? Адбываецца іх супрацьдзеянне, што вядзе да разбурэння, ці, наадварот, узаемадзейнічанне, плённы сінтэз?

Пытанні, пытанні... Адказаць на іх спрабавалі ўдзельнікі Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Рым-IV", якая нядаўна адбылася ў Гродне. Ініцыятарам яе выступіў Міжнародны камітэт беларусістаў, арганізатарамі — Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, "Рымскі камітэт", спонсарамі — гродзенскія абласныя і гарадскія ўлады, фонд "Сорас—Беларусь", фірмы "Аднова", "Амега", "Дайнова", "Кросны", "Міва", "Тур".

Ідэя "Рыма-IV" аб'яднала многіх навукоўцаў, дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, прадпрымальнікаў. Праўда, спачатку сяго-таго бянтэжыла назва: а ці няма тут палемічнага адмаўлення вядомага выказвання пра тое, што Масква — гэта трэці Рым, а чацвёртаму Рыму — не бываць?! Але баязліўцаў супакойвалі: чатыры — гэта ўсяго толькі парадкавая лічба. Бо "Рым-I" адбыўся, як і вынікае з назвы, у Рыме. У 1990 годзе там сабраліся вучоныя Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны (алфавітны парадак захоўваўся і захоўваецца строга), прадстаўнікі іх дыяспар (дарэчы, беларускія навукоўцы з Мінска, Нью-Йорка і Лондана тады ўпершыню ўселіся разам, упершыню супольна адстойвалі нацыянальныя інтарэсы). У Рыме было вырашана праводзіць такія канферэнцыі штогодна, быў створаны "Рымскі камітэт", куды ад Беларусі ўвайшлі Анатоль Грыцкевіч, Вітаўт Кіпель і Адам Мальдзіс. Наступныя сустрэчы адбыліся ў Любліне (1991), Камянцы-Падольскім (1992).

І вось прыйшла чарга на Беларусь. Гродна было тут выбрана не выпадкова: багатыя гістарычныя традыцыі, цікавая поліэтнічная культура, да таго ж — блізкасць да граніц і спрыянне мясцовых уладаў.

Кожная "рымская" канферэнцыя прысвячалася якой-небудзь адной шырокай праблеме, звязанай з гісторыяй і сучаснасцю чатырох народаў-суседзяў, што маюць многія супольныя традыцыі. Па прапанове беларускага боку ў Гродне такой праблемай стала ўзаемадзеянне нацыянальных і рэгіянальных культур (культурнае памежжа) Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Апрача дэлегацый гэтых краін на канферэнцыю прыехалі таксама асобныя вучоныя-беларусісты з Англіі, ЗША, Латвіі, Расіі, Чэхіі, Швейцарыі (у тым ліку прадстаўнікі беларускай эміграцыі Ян Запруднік, Зора, Алеся і Вітаўт Кіпелі).

Канферэнцыя праходзіла ў старажытным будынку былога тэатра Тызенгаўза. Пачалася яна песнямі-кантамі, якія выканала Гродзенская гарадская капэла. Удзельнікаў віталі старшыня Гродзенскага аблвыканкома Дзмітрый Арцыменя і віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі. Намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і ахаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Беларусі Алег Трусаў зачытаў прывітанне першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь В.Кузняцоў. Кіраўнікі дэлегацый (а былі імі Адам Мальдзіс, Юозас Тумяліс, Ежы Клачоўскі, Яраслаў Ісаевіч), дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель акрэслілі задачы канферэнцыі, вызначылі аспекты яе асноўнай праблемы.

Аспектаў жа сапраўды было багата: гістарычны і сучасны, тэарэтычны і рэлігійны, мовазнаўчы і мастацтвазнаўчы. Тры дні працягвалася зацікаўленая гаворка (секцыйных пасяджэнняў не было: усе слухалі ўсіх). Вучоныя розных краін расказвалі пра ўзаемаўзбагачэнне нацыянальных і рэгіянальных культур, шырока абапіраліся на еўрапейскі вопыт развіцця рэгіянальных і лакальных утварэнняў. Задавалася пытанне: культурнае памежжа — гэта шчасце ці няшчасце? І гучаў адказ: многае тут залежыць ад таго, ці не разыгрываецца гэтае памежжа, як палітычная карта, рознымі (часам "трэцімі") антаганістычнымі сіламі. Пры нармальных жа міжнацыянальных адносінах культурнае пагранічча — гэта супольнае багацце двух або і некалькіх суседніх народаў. Яно павінна квітнець, а не весці да ўзброеных канфліктаў (тут часта рабіліся спасылкі на Каўказ і Балканы).

І, натуральна, вялікая ўвага на канферэнцыі была ўдзелена Гродзеншчыне. Цэласны гэта культурны рэгіён ці адвольнае адміністрацыйнае ўтварэнне? Тон у пошуках адказу на гэтае пытанне задаў загадчык кафедры Гродзенскага універсітэта Аляксей Пяткевіч, які выступіў з дакладам "Рэгіянальныя асаблівасці культуры Гарадзеншчыны". Яго палажэнні развілі і дапоўнілі канкрэтнымі фактамі настаўнік з Гудзевіч Алесь Белакоз, бібліятэчны работнік з Астраўца Вера Тумаш, выкладчыкі Гродзенскага універсітэта. У выніку былі выяўлены плённыя, хоць часам і супярэчлівыя традыцыі і тэндэнцыі, якія могуць і павінны прывесці гэтае беларуска-польска-літоўскае памежжа да стабільнасці і росквіту.

І ў выступленнях удзельнікаў канферэнцыі, і ў прынятым "Падсумаванні" прагучалі канкрэтныя прапановы і рэкамендацыі, скіраваныя на далейшае вырашэнне актуальнай праблемы. Гаварылася, да прыкладу, што ў той час, як у Польшчы ёсць спецыяльны інстытут, што займаецца рэгіянальнымі і лакальнымі справамі і выдае два часопісы, у Беларусі такія даследаванні вядуць некалькі разрозненых асоб. Таму варта ў тым жа Гродне стварыць спецыяльны навуковы асяродак — магчыма ў межах універсітэта.

У час канферэнцыі чатыром вядомым вучоным чатырох суседніх народаў — Вітаўту Кіпелю, Вітаўтасу Мяркісу, Ежану Клачоўскаму і Яраславу Ісаевічу — была ўрачыста нададзена годнасць ганаровага доктара Гродзенскага універсітэта.

Да сказанага вышэй трэба дадаць, што матэрыялы канферэнцыі "Рым-IV" цяпер рыхтуюцца да друку ў зборніку "Беларусіка-3" (спонсарам тут выступае польска-беларуская фірма "Амега"), а "Рым-V" адбудзецца ў наступным годзе ў Тракаі каля Вільнюса.

**Алеся БЕЛАВУСАВА,**
**рэферэнт МАБ.**



**Гасцей з блізкага і далёкага замежжа сабраў другі міжнародны пленэр у Мінску. У скверы Янкі Купалы адбылося ўрачыстае адкрыццё. Удзельнікам былі ўручаны памятныя медалі і беларускія сувеніры. Цэлы месяц мастакі будуць працаваць у майстэрні пры Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, ствараючы творы мастацтва для горада Мінска.**

**НА ЗДЫМКУ: фін Хертскоф ЕНСІН, Пер БААГОЕ (Данія) і мастацкі кіраўнік пленэра Мікалай БУШЧЫК у час адкрыцця.**

**Фота В. ТАЛОЧКІ.**

ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ХРЫСЦІЯНСКАЙ МУЗЫКІ ДЫ ПЕСНІ

# "МАГУТНЫ БОЖА" ГУЧАЎ У МАГІЛЁВЕ



Мне патэлефанаваў рэдактар абласнога тэлерадыёаб'яднання Анатоль Шпількоў і ветліва запрасіў на фестываль духоўнай хрысціянскай музыкі, які праходзіў пад назвай "Магутны Божа". Гэта запрашэнне і назва фэсту былі для мяне вялікай нечаканасцю, і ў сэрцы была шчымлівая радасць ад таго, што імя бацькі пачынае ачышчацца ад бруду. Пастунова ён вяртаецца на сваю любімую Беларусь, на сваю радзіму. Адкрыўся фестываль гімнам Міколы Равенскага на словы Н. Арсенневай "Магутны Божа". Дырыжыраваў хорам старшыня журы фестывалю прафесар В.Роўда. Усе, хто прысутнічаў на адкрыцці, выконвалі гімн з вялікім натхненнем і праспявалі яго нават тры разы. Потым да мяне падыходзілі людзі і выказвалі сваю павагу да гэтага твора і паведамілі, што магілёўскае абласное радыё сваімі пазыўнымі ўзяло першыя гукі гімна "Магутны Божа". І Бог дапамог адбыцца фэсту, бо вельмі многа было цяжкасцей у арганізацыі гэтага вялікага свята. На мой погляд, гэты фестываль з'явіўся вялікім духоўным набыткам. У ім прымалі ўдзел розныя рэлігійныя канфесіі. Гучала духоўная харавая, вакальная, інструментальная музыка. Было вельмі многа выдатных выканаўцаў, якія адлюстроўвалі шырокую тэму шчырых пачуццяў чалавека да Бога, і навокал адчувалася ўсеагульная радасць. Асабліва хачу адзначыць мужчынскі ансамбль "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева, у выкананні якога ўсе творы гучалі на высокім прафесійным узроўні, таксама частка з літургіі М.Равенскага "Во царствии твоем", якая прагучала ўпершыню. Прыемна было слухаць маладзёжны камерны хор пад кіраўніцтвам Наталлі Жураўленка. Сваім выкананнем яны кранулі сэрцы слухачоў. Гучалі творы Калліннікава, Баха, Часнакова. Сярод выканаўцаў-вакалістаў на мяне больш усіх уздзейнічала Іна Еськава. Яе прыгожы і інтанацыйна чысты голас лашчыў слых. Асабліва добра праспявала яна творы Рахманінава "Вакаліз" і Моцарта "Алілуя". Маладзёжныя ансамблі ў рухавым тэмпе сваіх песень праслаўлялі Бога і аб'ядноўвалі людзей агульным узнёслым настроем. Ансамбль "Новы Ерусалім" моладзь сустракала радасна на ўсіх пляцоўках. Але самым дзіўным было тое, што яны ў каталіцкім касцёле праслаўлялі Бога. Раней ніколі такога не было, каб прадстаўнікі пратэстанцкай царквы маглі праслаўляць Бога ў каталіцкім касцёле.

Фестываль закончыўся заключным канцэртам, пасля якога гучаў гімн "Магутны Божа", які спявалі ўсе хары на сцэне і прысутныя ў зале.

Увечары быў арганізаваны касцёр, спявалі песні, вакол кастра адбываліся карагодныя танцы. Ксяндзы і манашкі весяліліся разам з усімі. Людзі разыходзіліся з пачуццём вялікай удзячнасці за ўсё арганізатарам гэтага дзіўнага свята.

У фестывалі прымалі ўдзел 15 краін. Калі людзі прыедуць дадому, яны будуць дзяліцца сваімі светлымі ўспамінамі, і ўсім Магілёў запомніцца як пачатак вялікай справы яднання людзей.

**Вольга РАВЕНСКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельніцы фестывалю Марына СЛАБАДЗЁНАК і Алёна НІКІЦІЧ — салісткі ансамбля "Крэда" з Вінніцы.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**





Здымкі зроблены нашым фотакарэспа[illegible]нтам Віктарам СТАВЕРАМ у Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь ў мікрараёне [illegible]на, дзе адбылося ваенна-спартыўнае свята.

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА

**6 жніўня, пятніца**

## БАРЫС ПЛАТОНАЎ




Барыс Платонаў... Ён быў чырвонаармейцам, калі грымела грамадзянская вайна. Быў заўзятым артыстам Клуба пралетарскай моладзі — "Беларускай хаткі". І акцёрам Першага БДТ, у якім прайшоў шлях ад выканаўцы эпізадычных роляў да вядучага артыста купалаўскай трупы. Чалавек вялікай душы, грамадзянін, мастак, ён быў сапраўды прыгожым у кожным учынку.

Барыс Платонаў — акцёр надзвычай шырокага творчага дыяпазону: выконваў ролі як з твораў класічнага, так і сучаснага рэпертуару. Створаныя Платонавым вобразы сучаснікаў трыццатых гадоў былі тыповымі, жыццёва дакладнымі і па-мастацку дасканалымі. На тым этапе былі ў яго і Клеонт у камедыі Мальера "Мешчанін у шляхецтве", Хуан у драме Кальдэрона "Вясковы суддзя", Грынёў у "Капітанскай дачцэ" паводле А.Пушкіна. Але асаблівую цікавасць і вялікі поспех меў ён у ролі Нязнамава ("Без віны вінаватыя" А.Астроўскага). У беларускай драматургіі Платонаў стварыў шэраг маляўнічых камедыйных і сатырычных вобразаў, надаючы ім вострую характарнасць. Гэта пляткар і нікчэмнасць Зёлкін ("Хто смяецца апошнім" К.Крапівы), напышлівы і пусты Быкоўскі ("Паўлінка" Я.Купалы), дробны ўласнік Лявон ("Ляіха на арбіце" А.Макаёнка).

[illegible]ласофскім гучаннем, драматызмам, дэталёвай распрацоўкай характараў вылучаліся вобразы, створаныя Платонавым у класічных творах. У глы[illegible]а псіхалагічным плане, раскрываючы складаны характар героя, іграў Федзю Пратасава ("Жывы труп" Л.Талстога), з цеплынёй і мяккасцю — Наракава ("Таленты і паклоннікі" А.Астроўскага), тэмпераментна, з бурнымі эмацыянальнымі ўсплёскамі — Эзопа ("Ліса і вінаград" Г.Фігейрэду).

Платонаў не меў пэўных рамак амплуа, амаль не ведаў межаў творчых магчымасцей. Артыст ствараў вобразы сацыяльных герояў, рэальных гістарычных асоб, камедыйныя, вострасатырычныя характары. Але ёсць рыса, што яднае, прынамсі, многія яго сцэнічныя вобразы. Гэта лірызм, найчасцей мяккі, задушэўны, тонкі. Ён кладзе свой выразны, непаўторны адбітак на платонаўскія ролі. Сорак пяць гадоў аддаў сцэне Барыс Віктаравіч. "Наперад, толькі наперад", — казаў ён. Усяго сябе, да апошняга дыхання аддаваў мастацтву, людзям.

**М.АЎСЯНАЯ.**

## СПОРТ

СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА. Міжнародны матч зборных ЗША, Украіны і Беларусі прайшоў у Лос-Анджэлесе. Сярод мужчын першынствавалі нашы спартсмены.

У асабістым заліку вызначыўся алімпійскі чэмпіён Віталь Шчэрба, які набраў на гэтых спаборніцтвах найбольшую колькасць балаў.

ШАХМАТЫ. На міжнародным турніры, які праходзіць у Швейцарыі, лідэрам стаў беларускі гросмайстар Барыс Гельфанд. Цяпер на рахунку мінчаніна 8 ачкоў.

ВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА. Першынство свету сярод маладых спартсменаў прайшло ў Грэцыі. Пераможцам у цяжкай вагавой катэгорыі стаў Вячаслаў Пірскі з Беларусі.

ВОДНЫЯ ЛЫЖЫ. Спартсмены з Наваполацка вызначыліся на адкрытым чэмпіянаце Польшчы. Аляксей Грабаў і Уладзімір Камоска былі мацнейшымі ў слаламе.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Дзесяты этап розыгрышу "Гран-пры" прайшоў у Ніцы. З беларускіх спартсменаў лепш за ўсіх выступіў кідальнік кап'я В. Сасімовіч, які заняў другое месца.

ШАШКІ. У Галандыі пачалося першынство свету. Рэспубліку Беларусь прадстаўляюць чэмпіёнка Еўропы Вольга Камышлеева і міжнародны гросмайстар Ірына Пашкевіч.

ФУТБОЛ. Пачалося першынство Рэспублікі Беларусь. У першай лізе ўпэўнена стартавалі мінскія дынамаўцы і дэбютант бабруйскі "Шыннік", якія атрымалі па дзве перамогі.

Добрыя весткі прыйшлі са штаб-кватэры УЕФА. Адразу чатыры футбольныя арбітры з нашай рэспублікі запрошаны сёлета судзіць афіцыйныя міжнародныя сустрэчы. Гэта Вадзім Жук, Сяргей Шмалік, Казімір Знайдзінскі і Генадзь Якубоўскі.

**БРАТКІ БЕЛАРУСЫ!**

Гонар і славу кожнай нацыі складаюць імёны выдатных вучоных, мастакоў, пісьменнікаў і музыкантаў. Часцей за ўсё талент праяўляецца яшчэ ў дзяцінстве. І вышэйшых вяршынь ён можа дасягнуць, калі будзе ў час разгледжаны і падтрыманы.

Гэтая інфармацыя тычыцца работы з таленавітымі дзецьмі ў галіне дакладных і прыродазнаўчых навук. Сёння, ва ўмовах адраджэння, беларусы маюць шанц утрымаць свае "зоркі" на ўласным небасхіле. Беларуская навука можа разлічваць на самых таленавітых сваіх дзяцей. Каб выявіць гэтыя таленты, у нас на Беларусі праводзіцца шэраг пазашкольных мерапрыемстваў, у тым ліку і алімпіяды розных узроўняў. Пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд прадстаўляюць Беларусь на міжнародных алімпіядах. Трэці год нашы каманды будуць удзельнічаць у сусветных алімпіядах па матэматыцы, інфарматыцы і біялогіі. У актыве беларускіх школьнікаў 5 срэбраных і 7 бронзавых медалёў. Міністэрства адукацыі рэспублікі робіць усё магчымае, каб работа з таленавітымі дзецьмі працягвалася на высокім узроўні, але сродкаў катастрафічна не хапае. Дзякуй Богу, што на нашай гаротнай зямлі не перавяліся яшчэ нашчадкі купалаўскага Гусляра, якія дбаюць перш за ўсё не пра золата і дыяменты, а пра вышэйшую мэтазгоднасць. На чале работы з таленавітымі дзецьмі стаяць энтузіясты, вучоныя АН Беларусі і выкладчыкі БДУ.

Але, нягледзячы на самаадданасць выкладчыкаў і талент дзяцей, каманды Беларусі па хіміі і фізіцы не маюць магчымасці праявіць сябе на сусветных алімпіядах. З-за недахопу сродкаў усе нашы каманды выступаюць у няпоўным складзе. Удзел беларускай каманды ў сусветнай алімпіядзе па інфарматыцы, наогул, пад пагрозай зрыву, бо кошт аднаго білета ў Аргенціну, дзе ў кастрычніку праводзіцца алімпіяда, складае мільён рублёў і 600 долараў ЗША. Спадзяёмся, што гэта інфармацыя не пакіне абыякавым ніводнага свядомага беларуса, які дбае пра будучыню сваёй Бацькаўшчыны. Любую дапамогу ўспрымем з падзякай.

**Наш разліковы рахунак N 100609809 у Мінскім гарадскім упраўленні Белбізнесбанку МФО 764.**

**Вашымі думкамі і прапановамі можаце падзяліцца са сп. Браценнікавай Аляксандрай Мікітаўнай па тэлефоне: 45-60-29 ці па пошце: 220038, г.Мінск, зав.Казлова, д.50, кв.32.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1100. Падпісана да друку 2. 08.1993 г.